# Гарадзенская КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД

№007, жнівень/верасень 2012




**Падарожжа праз краіну Дзукія да муроў Вільні**




**Партыя Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя-гэта альтэрнатыва а не апазіцыя**



**Пелігрымы на прасцягах Гарадзеншчыны**




## Ад часоў Кастуся Каліноўскага да сучаснасці

"Мужыцкая праўда" пад такім назовам вераснёўскія чытанні гістарычнай памяці ладзіць ў Гародні Абласная Навуковая бібліятэка імя Карскага.

Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя. На мэце арганізатараў паказаць гістарычную і сучасную журналістыку і перыёдыку ўсіх часоў , што друкавалася ў горадзе над Нёманам.

Спас адлятаюць буслы ад нас. Так і беларусам неабходна ведаць і верыць, што на зямлі  ўсё часовае і перамены будуць абавязкова. Вера і ўлада ад Бога, але і яна рэфармуецца і змяняецца.  Прпыклады-лёс сучасных вядучых канфесій Сусвету ад прарока Магамета да Хрысціянства. Яны мяняюцца і дробяцца на плыні, рухі і секты. Сёння БХД за байкот выбараў. А заўтра, пры адпаведным выбарчым клімаце БХД запросіць ўсіх беларусаў да выбарчага працэсу.





# У калейдаскопе навін БХД



**Тры дні з вікінгамі ў Троках**

Сустрэцца з прадстаўнікамі роднасных партый краін Эўразвязу актыву партыі Беларуская Хрысціянская дэмакратыя даводзіцца з”язжаць ў замежныя камандзіроўкі. На зямлі Бацькаўшчыны, такія сустрэчы могуць дрэнна скончыцца і гасцям і гаспадарам. Гэты раз прывітаць сваіх нарвежскіх паплечнікаў бэхэдоўцы Беларусі сабраліся ў старажытных Троках. Згадаю адразу, летувісы парупіліся, каб сустрэча прайшла ў камфорце. Ўдзельнікам сустрэчы была прапанавана самая разнастайная праграма ад стральбы з лука да выгод турэцкіх лазняў. Нарвежцы ўразілі кампітэнтнасцю і душэўнай прастатой. Яны камунікабельныя і ахвотна ідуць на кантакт ўжываючы пры гэтым беларускія словы.

Праграма ”сучаснае лідарства“ прайшла менавіта пад знакам нарвежскай кампітэнтнасці і інфармаванасці.

Ўвогуле дакладчык распавёў прысутным, што ў свеце існуе некалькі тысяч тыпаў і накірункаў лідарства. Ўсе мы лідары і знаходзімся сярод лідарскага атачэння. Ўсё залежыць ад сітуацыі, І як мы зрэагуем, ці павядзем сябе ў той ці іншай пазіцыі залежыць ад нас саміх, нашай рэакцыі, і гатоўнасці рэагаваць на сітуацыю. Тут нам трэба многаму вучыцца ў тых, хто мае жаданне дапамагаць нам здабыць лідарскія пачаткі праз вышэйзгаданыя сустрэчы.

Другім накірункаў ў працы трэнінга ў Троках было пытанне байкоту восненскіх выбараў ў беларускі парламент. Сяброў БХД не цікавіць якая партыя і колькі кандыдатаў будзе вылучана ад іх на выбары. Чальцы партыі павінны дасціпна і поўна тлумачыць ідэю байкоту выбараў. Сама ідэя байкатавання ўжо зараз разглядаецца як доўгатэрміновая барацьба, якая з цягам часу павінна стаць як мага больш масавай і агульнанароднай. Толькі тады можна будзе атрымаць пазітыўны вынік.

Трэці накірунак сустрэчы ў Троках-гэта праблемы захавання сям”і. Праблема асабліва надзённа для нашай тэрыторыі, калі маладая сям”я спрабуе выжываць ва ўмовах эканамічнага крызісу, духоўнага заняпаду грамадства , і патокаў хлусні , што ліюцца на іх з боку праўладных сродкаў масавай інфармацыі. Такі негатыўны вакуум толькі спрыяе разбурэнню маладых сем”яў. Зазначана, што толькі ў параўнанні цэлага шэрагу пазітыўных прыкладаў можна дабіцца некаторага паляпшэння сітуацыі. Прысутныя разам шкадавалі, што беларусы маюць няшмат магчымасцяў для параўнання мадэляў суіснавання грамадства ў краінах Эўразвязу, і ў Беларусі. Ўладныя наўмысна ствараюць перашкоды інтэграцыі беларусаў ў міжнародную эўрапейскую супольнасць.

Эўрапейскія каштоўнасці падменьваюцца нам сурагатам беларускай мадэлі развіцця грамадзтва па прынцыпу “купляй сваё” і татальным абманам грамадзян.

**Работа на месцах**

Сваё чарговае пасяджанне праўлялі актывісты Гарадзенскай філіі партыі Беларуская Хрысціянская



Дэмакратыя. Па традыцыі рэяводзіў на сустрэчы лідар гарадзенскай філіі Мікола Баўсюк.

На сустрэчы было абмеркавана тры пытанні. Першае-гэта маральная падтрымка чальца партыі са Свіслаччыны Вольгі Грушэўскай . Наша газета паведамляла, што ў Марыі Восіпаўны Грушэўскай шмат непаразуменняў ня толькі з ўладнымі структурамі гэтага рэгіёна. Ў Марыі Восіпаўны ёсць пытанні і да гандлюючых прадпрыемстваў абласнога цэнтра.Зараз справа дайшла да судовага разбіральніцтва.

Другое найбольш надзённае пытанне-гэта справа байкоту выбараў. Як вядома частка сяброў партыі мае намер ўдзелу ў выбарах ў якасці назіральнікаў. Гарадзенцы цвёрда стаяць на поўным байкоце выбараў. Любое дачыненне да выбарчага працэсу лічыцца ўдзелам ў выбарах. А гэта супярэчыць пазіцыі партыі.

Трэцяе пытанне , якое разглядалася найбольш актыўна-гэта акцыя па зборы подпісаў па паскарэнню ратыфікацыі беларускім бокам пагаднення з польскім ўрадам аб малым памежным руху. Польскі бок ратыфікаваў пагадненне і чакае такіх жа захадаў ад беларусаў. Аднак беларускі бок адмоўчваецца . Актыў філіі разабраў падпісныя лісты і будзе збіраць подпісы грамадзян з мэтай ўздзеяння на кіруючыя ўладныя структуры па актывізацыі іх дзеянняў ў справе хутчэйшага вырашэння такога надзённага пытання , як малы памежны рух . Як вядома,пад дзеянне параграфаў пагаднення трапляюць жыхара трох раёнаў Прынямоння ў межах пяцідзесяцікіламетровай зоны іх сталага пражывання. Выгоды ад ратыфікацыі відавочныя: Найперш ўступіўшае ў сілу пагадненне створыць магчымасць больш частага кантакту паміж беларускімі і польскімі жыхарамі Памежжа, што вельмі спрыяльна для тых, хто мае сваякоў. Яшчэ ратыфікацыя пагаднення створыць спрыяльныя ўмовы для інтэнсіфікацыі чаўночнага гандлю, лепшага ўзаемадзеяння ўстаноў дзяржаўнага і прыватнага бізнесу.

Ня менш надзённым для Гарадзенскіх бэхэдоўцаў і стае пытанне таго, што Беларусь ўсё болеё і болей пазастае пазаэўрапейскімі каштоўнасцямі. Пра гэта кажуць ўсе, хто хоць адзін раз пабываў ў краінах Эўразвязу. Беларусь адстала ў сацыяльных праграмах, пазастала яна ў эканамічным развіцці. Разлік на тэхналогіі суседняй Расеі неапраўдаў надзеі . Расея сама ў значнай ступені залежыць ад тэхналогій Захаду.Беларусаў непаважаюць ні ў Эўропе , ні краінах -суседках. Беларусаў бяруць на працу ў якасці гастарбайтараў як самую танную , юрыдычна і сацыяльна неабароненую групу. Такое адбываецца толькі дзякуючы дзейнасці нашай Вярхоўнай ўлады.




### Што выратуе Беларусь і беларусаў?

Ў беларусаў пазастаў амль адзіны шанец людзьмі звацца. А гэтага можна дабіцца толькі шляхам ўсенароднага байкоту выбараў. Тады ўлада і ўладныя няздолеюць называць сябе легетымнай ўладай. Аб гэтым ўжо некалькі год згадваецца ў праграмных дакументах партыі з хрысціянскай душой і сэрцам . Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя.

### Наша апытанне

Людміла- гарадзенка. Я непайду на выбары па некалькіх прычынах. Першае-няма з каго выбіраць. Кандыдатаў ад дэмрухаў ўсё адно не зарэгіструюць. А за тых, што вылучаць па спісе няма чаго галасаваць.

Вікенцій-пенсіянер: Мне няма чаго хадзіць на выбары .Надакучылі абяцанкі людзей, што называюць сябе кандыдатамі ў дэпутаты , альбо дэпутатамі. Яны ня маюць рэальнай ўлады, ўлада сканцэнтравана ў адных руках. Тое, што ім дазваляецца-гэта проста гульня. Яны марыянеткі ў руках таго, хто трымае ўсю ўладу.

Таццяна-турыстка-чаўночніца: Мне нечага рабіць на выбарах. Я недавяраю тым, хто атрымае мандат дэпутата. Ўявіце сабе колькі год мы гаворым аб малым памежным руху . Менавіта з рэалізацыяй гэтага беларуска-польскага пагаднення такія як я людзі звязвалі паляпшэнне ўмоў пераходу дзяржаўнай мяжы. Тут бы дэпутатам ад Гарадзеншчыны і праявіць сябе ўзняўшы гэтае пытанне ў парламенце. Хто чуў , што такое абмяркоўвалася дэпутатамі. Мае правы, а разам з імі і дабрабыт маёй сям”і растаптаны. Яны далёкія ад патрэб простых людзей.

Хрысціна-жыве ў Лідзе. Я маю вышэйшую адукацыю і немагу знайсці работу па спецыяльнасці ў родным горадзе. Вымушана ездзіць ў Расею на гандаль. А гэта скажу вам небяспечны бізнес. Ня верыце? Паспрабуйце! Вось бы нашы “ народныя абранцы “пабылі ў нашай скуры тады б ведалі кошт дэпутацкага мандата. А яны кабінеччыкі, і далёкі ад народных праблем. Таму нам непатрэюны такія дэпутаты, такі парламент, я за байкот выбараў.

# Сшытак Гарадзенскай інфармацыі

### Гарадзенскі вакзал набывае эўрапейскі выгляд

Прыкладна месяц часу застаўся будаўнікам, каб завершыць ўсе рамонтна-рэстаўрацыйныя работы гарадзенскага вакзала і прылягаючых плошчаў.

Зараз будаўнікі аздабляюць фасады двух жылых дамоў, што знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці вакзальных тэрыторый. Ў самым цэнтры прывакзальнай плошчы вырашана вылучыць ядро для ўсталявання там скульптуры . Пакуль невядома , што будзе гэта за кампазіцыя. Можа стэла, а можа калона.

### Гандлёвы цэнгтр з балканскімі традыцыямі

Ў Гародні на перакрыжаванні вуліц Дубко і Дзяржынскага распачата пабудова новага гандлёвага цэнтра.

Экзотыку цэнтру нададуць ўзведзеныя на яго тэрыторыях сярэднявекавы сербскі замак з плошчай. Замак будзе збудаваны ў мініпамерах і нагадваць сярэднеквыя абарончыя пабудовы гэтай балканскай краіны. Тэрыторыю плошчы выбрукуюць гранітнай пліткай.

### Вадасховішча запоўнена вадой

Ў завяршальную стадыю падыйшлі работы на гарадзенскай гідраэлектрастанцыі. Вадасховішча працягам сорак два кіламетры запоўнена вадой.Вадасховішча мае руславую пабудову. Найвялікшая шырыня якога складае два кіламетры –гэта ў Мастоўскім раёне непадалёк вёсак Глядавічы і Наваселкі. Глыбіня русла сягае месцамі ад сямі да дзесяці метраў. Нёман на працягу вадасховішча ўяўляе сабой магутную раку з выспамі і затокамі.

### Ў лясах Прынямоння грыбная пара

Даждлівае надвор”е змяніўшае засуху спрыяльна адбілася на настроях аматараў збору грыбоў. Зараз грыбнікі Панямоння збіраюць лісічкі. Больш дасведчаныя вядуць сваё ціхае паляванне на чырвонагаловікі і белыя грыбы. Найлепшыя зборы дароў лесу налічваюць грыбнікі Свіслаччыны і жыхары вёсак, што месцяцца на тэрыторыі Налібокскай пушчы.

Лішкі грыбоў кожны жадаючы можа здаць ў нарыхтоўчыя кропкі. Нагадаем, што кошт аднаго кілаграма лісічак сягае 20—ці тысяч рублёў.

### Перавага кармлення немаўлят ў гарадзенак, -малако матулі

Больш шасці тысяч немаўлят нарадзілася за першае паўгоддзе бягучага года на Гарадзеншчыне, што перавышае мінулагоднюю лічбу на трыста нованароджаных.

Як адзначаюць медыкі, гарадзенскія матулі аддаюць перавагу ў кармленні сваіх нованароджаных грудному малаку. Спецыялісты гарадзенскага перынатальнага цэнтра адзначаюць, што тэндэнцыя росту нараджаемасці назіраецца найперш ў тых сем”ях , дзе ёсць дзеці. Жаданне нарадзіць двух і более дзяцей становіцца добрай традыцыяй ў і маладых гарадзенак, якія нядаўна ўзялі шлюб.

### Школа заве

Чакаюць недачакаюцца шкаляры вераснёўскага званка ў школу.

Пэўная частка школьнікаў сядзе за школьныя парты ня першы раз, а пэўная стане ад першага верасня называцца першакласнікамі. Новенькія касцюмы і партфелі бацькі набылі сваім пацехам загаднёў. Вось толькі адпраўка дзіця ў школу стала многім гарадзенцам спраўай каштоўнай. Каб сабраць дзяўчынку ў школу бацькі павінны выкласці з сямейнага бюджэта каля паўтарамільёна рублёў, экіпіроўка хлопчыка абыдзецца сям”і крыху танней. Як заўважаюць настаўнікі ,- знойдзецца шмат дзетак, што першага верасня прымераюць на сябе ношаныя рэчы. Асабліва гэтае пытанне надзённа для сельскай мясцовасці, і для шматдзетных сем”яў. Пазастаецца разлічваць на дапамогу дзяржавы, а не на ўласныя зберажэнні.

### За парушэнні перавозкі дзяцей вадзіцелі будуць несці пакаранне

Вадзіцель, які будзе перавозіць дзяцей з парушэннямі правіл дарожнага руху атрымае кару ў памеры чатырох базавых велічынь. Нагадаем, што да дванаццаці год дзіця павінна ехаць на пярэднім сядзенні легкавіка ў спецыяльным крэсле, на заднім сядзенні сядзець на руках ў дарослага, які павінен быць прышпілены пасам. Ў іншым выпадку, інспектары ДАІ пакараюць кіроўцу на вышэйзгаданую суму.

### Гарадзенскія аграрыі і рэкордны намалот

Прыкладна два мільёны тон збажаны сёлетняга ўраджаюц плануюць даць беларускай гаспадарцы гарадзенскія працаўнікі вёскі.

Збожавых культур чакаецца намалот дзесці ў мільён шассот тон, астатні давесак плануецца намалаціць пры ўборцы кукурузы.

Рэкордны ўраджай лічбай ў два мільёны агучаны ў гісторыі гарадзенскай калгасна –саўгаснай сістэмай ўпершыню. Зараз адміністрацыі аграпрамысловых прадпрыемстваў пільна сочаць за выкананнем плану.

На жаль, беларускі каравай ў ган-

длёвай краме занадта каштоўны для звычайнага пакупніка-пенсіянера. Менавіта гэтая група насельніцтва аддае пры пакупцы хлеба перавагу звычайнаму савецкаму " кірпічыку". Так пры чым тут рэкорды і намалоты?

**Ці пагражае афрыканская ліхаманка беларускім выт ворцам свініны?**

Пераважна гэтая інфекцыйная хвароба найчасцей сустракаецца ў свінагадоўлі. Захварэўшая жывёла абавязкова загіне. Пры выяўленні захворвання хоць бы ў адной жывёлы ветэрынары павінны спаліць ўсе жывёлагадоўчыя і свінныя комплексы ў радыюсе дзесяці кіламетраў. Па словах гарадзенскіх ветэрынараў наш рэгіён ў бяспецы . Сітуацыя ўзята пад татальны кантроль спецыялістаў.

Трывожная інфармацыя аб ўзнікненні фактаў інфецыравання зыходзіць ад ветэрынарскіх службаў краін-суседак з ўсходук і поўдня.

На нашай тэрыторыі выпадкаў захворванняў, як ў прыродзе, так на свінагадоўчых комплексах не зафіксавана.

**Знойдзены фундамент Лаўрышаўскага кляштару**

На сваю знаходку архіолаг з Менску Сяржук Расадзін патраціў два гады жыцця. Яго навуковыя архіялагічныя даследаванні ў Навагрудскім раёне далі плён.На паўднёвым беразе Лаўрышаўскага возера навукоўцам знойдзены парэшткі фундамента кляштара. Цэгла і тэхналогія кладкі ідэнцічны архітэктуры Наваградзкага замку. На думку архіолагаў муры кляштара былі збудаваны ў 13-тым стагоддзі святым Елісеям Лаўрышанскім, альбо князям Вайшэлкам. Забудова кляштара была знішчана ў 1-тым стагоддзі . Затым ў гэтым жа стагоддзі забудова была адноўлена. Канчаткова кляштар трапіў ў заняпад пасля разбурэнняў Першай Сусветнай вайны.Існуе легенда, што ў 16-тым стагоддзі манахі з мэтай захавання парэшткаў Святога Елісея Лаўрышанскага схавалі мошчы ў патаемным месцы. Ў наступнае лета навуковец Расадзін мае намер прыехаць сюды і працягнуць свае архіялагічныя працы з мэтай знаходжання саркафага Святога.

**Святыя муры Жыровіцкага кляштара чакаюць верных**

28-га жніўня дакрануцца святых таямніц Жыровіцкага СвятаЎспенскага мужчынскага кляштара збяруцца вернікі ўсіх абсягаў нашае Бацькаўшчыны.

На месцах ў праваслаўных прыходах добра парупіліся, каб да Жыровічаў змагло даехаць як мага больш жадаючых.

Таксама тут чакаецца значны прыезд замежных гасцей ўсіх канфесій, бо прыехаць да Жыровічаў пабываць ў пакоях беларускае святыні іх завуць цуды, якія ствараюцца тут па волі заступніцы зямлі Беларускай ПрыснаДзевы Марыі.

**Песні на Каложы**

Новазбудаваны цэнтр праваслаўя атрымалі для правядзення культурна-хрысціянскіх мерарыемстваў прыхаджане Барыса-Глебскай царквы Гародні.

Ў пакоях цэнтра можна праводзіць самыя розныя сустрэчы для дарослых вернікаў і дзяцей. Менавіта нядаўна тут свае хрысціянскія песні выконваў самадзейны аўтар Аляксей Калкоўскі . Нагадаем, што спявак мае раней выпушчаныя музычныя дыскі. Зараз працуе над падрыхтоўкай свайго чарговага музычнага дыска на тэмы хрысціянства.

Дарэчы, такія музычныя сустрэчы ладзяцца тут на Каложы ў рамках штогадовага фестывалю " Каложскія песнапенні".

**Сучасны беларускі жывапіс ў Варшаве**

Выставу сучаснага беларускага жывапісу арганізавалі ў сталіцы суседняй Польшчы супрацоўнікі гарадзенскай выставачнай артгалерэі " Крывга"

Экспазіцыю выставы склалі творы мастакоў з Менску і Гародні. Польскія калегі былі захоплены навізной тэмаў і якасцю выканання малюнкаў.

Менавіта такі запіс яны пазаставілі ў кнізе водгукаў . Работа з выставачнымі галерэямі Польшчы-гэта толькі адзін з накірункаў папулярызацыі сучаснай шматгаліновай беларускай культуры ў краінах Эўразвязу

**Халодная зброя ў каралеўскім замку Гародні**

Выстава халоднай зброі адкрылася ў Новым Каралеўскім замку Гародні.

Экспазіцыю выставы складаюць ўзоры сярэднявекавой зброі краін Эўропы і Азіі . Тут глядач можа наталіць свой густ мастацка выкананымі клінкамі сцілетамі, саблямі і шмат іншым. Праект камерцыйн. Ўваход на выставу платны.

**Банкі падрахоўваюць пазыкі**

Непашэнціла жыхару Слоніма, які выконваў самыя розныя забаўляльныя паслугі выкарыстоўваючы для гэтага лімузін маркі " Кадзілак". Аўто прадпрымальнік ўзяў ў крэдыт . Аднак разлічыцца з крэдытадаўцай " Беларусбанкам" няздолеў. Цяпер лімузін ў якасці залога канфіскаваны і выстаўлены на аўкцыён.

Дарэчы, аўто выстаўляецца ня першы раз на прадажу. Аднак, пакуль што ніхто ненанаважыўся яго купіць. Вельмі верагодна, што спрацоўвае правіла салідарнасці бізнесменаў.

**Мытня не дае дабро**

Мытнікі Ашмянскага кантрольна-прапускнога пункта затрымалі падазроны аўтамабіль, які пераганяў з Эўропы ў Расею грамадзянін гэтай краіны.

Занепакоенасць мытнікаў дала плён. Пры пільнай праверцы высветлілася, што BMW X6 коштам сто тысяч доляраў скрадзена ў Нямеччыне.

Па факту крадзежніцтва і перагону легкавіка праз нашу тэрыторыю вядзецца следзтва.

## Справы канфесійныя

### Рэстаўрацыя працягам ў стагоддзі



Ў Гародні прайшла гісторыка-культурная дзея. Гарадзенскія лютаране, разам з запрошанымі гасцямі святкавалі стогадовый юбілей завяршэння рэстаўрацыі – пабудовы лютаранскай царквы горада.

Адразу скептыкам згадаем, што пабудова-рамонт кірхі былі завершаны ў горадзе над Нёманам ў той перыяд часу, калі на прасцягах тагачаснай Расейскай імперыі гучна чуліся прызывы аб вайне супраць Кейзераўскай Германіі. Час быў няпросты, і ўвод ў лік дзеючых лютаранскай святыні, як бы даваў шанц на мірны зыход , але бакі нескарысталі з магчымасці,і ў выніку вайны зніклі з мапы Эўропы дзве імперыі. Засталася кірха і Вера Боская.

Няпростым быў лёс ў гарадзенскага лютаранскага храма. Заклад-зены як новабудоўля яшчэ ў 18-тым стагоддзі храм некалькі разоў пазаставаўся пазаўвагай . Спыняліся будаўнічыя работы і сам будынак гібеў. Аднак ці то з ласкі Божай, ці па малітвах прыхаджан кірха аднаўлялася як вонкава так і ўнутры.Гісторыя памятае некалькі этапаў рэстаўрацыі . Найгоршым перыядам быў безумоўна час, калі безупынку панаваў на нашых землях атэізм. Храм ізноў быў адабраны ў паствы і зачынены. Перад тым, як будынак кірхі наноў быў перададзены вернікам тут знаходзіўся дзяржаўны архіў.Першыя службы пачаліся ў вернутай пастве святыні ў 1995 годзе. Адначасова распачаліся і рэстаўрацыйныя работы.Зараз дзякуючы высілкам святароў , вернікаў, мецэнатаў ў адносны парадак прыведзена ўнутранае ўбранства храма. Добраўпарадкавана тэрыторыя, аздабляецца фасад. Вядуцца набажэнствы на нямецкай і расейскай мовах. Нярэдка тут гучыць і ангельская мова.Тоесамае я чуў і на справаздачнай ўрачыстасці На жаль, ў дзень, калі верныя, грамадзкасць горада, запрошаныя ў госці з нагоды юбілею, амбасадары краін Эўразвязу негучала тут мова тытульнай нацыі. Шкада, бо ўсётакі кірха знаходзіцца на нашай беларускай зямлі. І хоць аднаўленчыя работы вядуцца тут ў асноўным за кошт нямецкага падаткаплацельшчыка, аднак храм атрымлівае ахвяраванні і ад звычайных грамадзян. Вельмі добра было б, каб пра нас, гаспадароў гэтай зямлі, нашу культуру і традыцыі незабываліся і ў гэтым святым месцы.

### Пелігрымка гарадзенцаў

Вернікі Гарадзенскай Дыяцэзіі Рыма-каталіцкай царквы здзейснілі пелігрымку да свято-га вобраза Тракельскай Маці Боскай.

З Гародні да Тракеляў прайшлі чатырыста чалавек. На шляху пелігрымкі да верных далучаліся жыхары іншых вёсак і мястэчак Прынёманскага краю і сумежных беларуска-летувіскіх тэрыторый . За шлях пелігрымкі верныя здзейснілі тры прыпынкі ў Забалаці, Радуні і Пагародна.

Ікона Тракельскай Маці Боскай з Выратавальнікам на левай руцэ і выявай Святога Казіміра прыгатаванага да малітвы напісана мастаком напрыканцы шаснаццатага стагоддзя. Яна каранавана Папай Рымскім Янам Паўлам Другім. Ўсяго на тэрыторыі Беларусі каранаваных абразоў з выявай Маці Боскай няшмат. Найбольш вядомыя-гэта абразы Маці Боскай ў Гальшанах, Берасці, Лагішыне , Будславе, Гародні.

### Хроснае шэсце праваслаўных

Свае ўрачыстасці з нагоды ўшанавання ўсіх беларускіх святых правялі ў Гародні праваслаўныя вернікі.

Найперш, верныя ўсіх гарадзенскіх праваслаўных прыходаў здзейснілі хросны ход ад Свята-Пакроўскага сабора да муроў новазбудаванай ў Гародні праваслаўнай царквы ў гонар Ўсіх Беларускіх Святых. У дзеі прымала ўдзел больш трох тысяч вернікаў.Аздобілі свята праваслаўных святары іншых канфесій, што



былі запрошаны на Гарадзенскі фэст кіраўніцтвам Гарадзенска-Ваўкавыскай праваслаўнай епархіі.

Яшчэ ў Гародні адбыліся ўрачыстасці з нагоды прыстольных святаў. У Сята-Ўладзімірскай царкве горада было адслужана набажэнства і здзейснены хросны ход ў гонар святога Ўладзіміра.

Ў Барыса-Глебскай царкве на Каложы прайшло штогадовае свята з нагоды ўшанавання памяці святых Барыса і Глеба.. Тут таксама было адслужана набажэнства і праведзены хросны ход для верных.

Да святога абраза Маці Божай Ракавіцкай адправіліся хросным ходам паломнікі Гарадзенска-Ваўкавыскай праваслаўнай эпархіі. Пелігрымка распачалася ад муроў гарадзенскага Свята-Пакроўскага сабора. Ў святочным хросным шэсці ўзялі ўдзел больш за трыста ахвочых.

Як заўважаюць святары Гарадзенска-Ваўкавыскай праваслаўнай эпархіі такія шэсці толькі ўзмацняюць веру, а вера без спраў Богуўгодных мізэрная ёсць.

Выставачная зала Гарадзенска-Ваўкавысскай праваслаўнай эпархіі стала месцам адмысловай выставы вулічных мастакоў з Польшчы, Чэхіі, Ўкраіны, якія спецыялізуюцца ў сваёй творчасці на пісанні святых абразоў, дзе галоўнай тэмай твора мастацтва з"яўляецца атаясамленне святога абраза з сучаснай вулічнай рэчаіснасцю.



**Мураўёф гатэль**

Вельмі мажліва, што гарадзенцы і госці горада ў хуткім часе змогуць любавацца наноў адбудаваным домам паноў Шарышэўскіх. Паны Шарышэўскія валодалі актывамі гарадзенскай тытунёвай фабрыкі і мелі ўласны дом ў самым цэнтры гістарычнай Гародні.

Згодна інфармацыі на будынку фактычна закончаны рамонт даху. Зараз вядзецца аздабленне ўнутранага і вонкавага фасаду. Калі рамонтна-рэстаўрацыйныя работы не будуць наноў спынены з-за недахопу фінансавання, то цэнтр нашай Гародні стане больш прывабным і добраўпарадкаваным.

**Пенсія, гандаль і лецішча**

Наяўнасць пяці сотак зямлі (дачы) атрыманы пенсіянерамі за нявольніцкую работу яшчэ ў савецкі перыяд сталі на Гарадзеншчыне добрым падмуркам ў латанні дзіравага і жабрацкага бюджэта сям"і з аднаго, двух пенсіянераў.

Надоечы чуў знаходзячыся на сваіх сотках размову групы кабет – пенсіянерак. Рэяводзіла самая актыўная так:"Дзяўчаты я ўсю пенсію аддала на лекі. Ні было за што сюды на агарод прыехаць. Добра сусед ехаў на легкавіку. Падвёз дзякуй яму Бог. Як жыць ня ведаю ! Трэба пазычаць грошы." Другая больш дасціпная парадзіла суразмоўцы так:" Ў цябе ж добрая цыбуля , што ты садзіла на зіму. Нарві і прадай."

Вечарам бачыў, як пенсіянерка, што аддала грошы на лекі везла кайстру зялёнай цыбулі на прадажу. Аднак сцвярджаць, што гандаль паправіў мізэрны бюджэт жанчыны згадаць цяжка. Сваё вырашчанае на лецішчы пенсіянеры часта спрабуюць прадаваць не ў дазволеных для гандлю месцах. Проста спрабуюць сэканоміць грошы неплаціўшы за гандлёвае месца на торжышчы. Гандаль ў недазволеных месцах ў нашай краіне караецца па закону.

Вось так і жывуць-існуюць, трываюць. Ходзяць на выбары, слухаюць абяцанкі , спадзяюцца на дзеючага місію, нічога непатрабуюць, і гатовы трываць так і далей. Абы б вайны нібыло. Хто так навучыў іх?

Гарадзенская
КРЫНіЦА
ЖНІВЕНЬ/ВЕРАСЕНЬ 2012

# Гародня -Вільня праз краіну Дзукію



**Летувісы ўразілі. Яны адпавядаюць тым памкненням, дзеля якіх ля Віленскай тэлевежы аддалі самае дарагое,- сваё жыццё маладыя змагары за свабоду і незалежнасць Айчыны.Яшчэ летувісы адпавядаюць назову эўрапейскай дзяржавы. І ўсё гэта ў іх грамадзянскім натоўпе натуральна, цывільна.**

**Раніца ў краіне дзукаў**

Некалі, калі бываў у Друскеніках мяне заўжды апаноўваў гонар" Ня ўсё ўсёж такі у нас па запаветах камуністых. Ёсць хоць і асколачкі сусветнай цывілізацыі , але яны ёсць" . Любіў гадзінамі блукаць па невялікіх вулках Друскенікаў. А паўсюдна разнастайныя кнайпы, бары з вэнджанымі сасіскамі, вяндлінай і нечым такім мілым, аддаючым пахам бацькоўскай хаты здаваліся мне гэтыя маленькія цуды савецкага прагрэсу. Я непачынаў свае побыты ў Друскеніках як ўсе з закупаў. Я імкнуўся наведаць галерэю Чурлёніса, мясцовую праваслаўную царкву. А потым ўжо як і ўсе па крамах.

Дзівіла мяне ў крамах тагачасная летувіская пыха крамніц. Але сёння з пункту вопытнага чалавека разумею. Летувісы жадалі пазастацца ў сваім летувіскім свеце неспаганеным маскоўска-савецкай прапагандай. Прапаганда была навокал. Прыпамінаю высачэзныя будынкі саюзнага "горада-санаторыя " Друскенінкай". Менавіта яны сталі сымваламі глабальных мэтаў і задачаў афіцыйнай тагачаснай прапаганды аб " мировом господстве" . Грувастыя гмахі, жудасны напамін летувісам савецкай Літвы так любячым сваё , што час глабальнай рэвалюцыі незагарамі. Куды было ім дзецца народу, які любіў сваю Малую Радзіму і адчуваў яе жахлівую будучыню ў памкненнях крамлёўскіх палітыканаў здзейсніць міравую рэвалюцыю. Вось і іх пыха- гэта маўклівы дакор-пратэст. Але цяпер гэта толькі ўспамін, летувісы дамагліся свайго, і краіна Дзукія разам з астатняй Летувой стала эўрадзяржавай.



**Друскенікі сёння**

Высокія будыніны санаторыяў і сёння трапляюць на вочы кожнаму турысту, і найперш таму,хто першы раз апынуўся тут. Прама з шыльды,што на сцяне аўтавакзала можна здабыць пра іх існаванне неабходную інфармацыюТак і я падчас свайго побыту хацеў ўбачыць тыя Дзукі, што памятаю іх з юнацкіх часоў. На жаль, тыя, юнацкія Друскенікі ўжо гісторыя. Прыватныя сядзібы, што так грэлі некалі позірк не маняць сябе свежасцю-вычэчурнасцю. Яны нейкія іншыя, пастарэўшыя. Няма таго лоску, што быў напрыканцы 20-га стагоддзя. Тут жа лаўлю сябе на думцы, што быў гэты лоск штучны , эфімерны створаны савецкай прапагандай. Я ж працягваю свій

шпацыр і пераконваю сябе, што мае думкі памылковыя. Ёсць ў Друскеніках былая годнасць і шарм. Толькі ён не прапагандысцкі, а натуральны і трэба быць летувісам, каб гэта адчуваць, альбо быць проста чалавекам, які генетэчна стасуеццуа з эўрапейскай культурай.Колішняе пабудаванае для савецкага чалавека нанасное тут, яно зышло і забыта. Той, хто тут ня быў працяглы час спачатку неразумее перамен, а затым пакрысе ловіць сябе на думцы " Яны вярнуліся да сваіх першавытокаў і інтэграваліся ў Сусвет".

### З Дзукаў да Вільні

Дарогі на Летуве ня лепшыя нашых беларускіх, але і ня горшыя.

Увесь шлях працягам ў две гадзіны язды думаў пра Вільню. І вось сустрэча. О Вільня, нявыпадкова ты абуджаеш творцаў да дзеяў! Ты мадэрновая і старажытная, гасцінная і патрабавальная. А віленцы мілыя людзі размаўляюць на летувіскай мове тут жа, калі запатрабуе сітуацыя будуць размаўляць з табою на эсперанта. Мяне чакаюць справы, але я спяшаю прывітаць Стары горад. Вулкі, вулачкі, святыя храмы, банкі, дзяржаўныя ўстановы ўсё на сваіх месцах. Але ўсёж нешта не так, нешта інакш. Насамрэч ўсё інакш. Дзелавая Вільня працуе, вырашае фінансавыя, эканамічныя, гаспадарчыя пытанні. Мы тут хоць і па сваіх, але прыватных справах. Дзелавым віленцам да нас няма цікаўнасці. Але ёсць іншыя месцы, дзе ты можаш адчуць водар Вільні-гэта кавярні і бары, якіх ў Старым горадзе безліч. Сядзі сабе пацягвай каву, ці больш гарачы напой і ўпітвай душой водар сучаснай Вільні. Водар больш пярэсты і мае значна больш незнаёмага, экзатычнага пажу- гэта ніштo іншае, як кнайпы з ўсялякімі нацыянальнымі кухнямі народаў сусвету. Трэба ахвяраваць нечым сваім, такая вось матухна канкурэнцыя.

### Вільня вечарам

Прайсціся па вузкіх, брукеаваных каменем вулках вячэрняй Вільні асаблівая асалода. У барах, кавярнях сядзяць спакойныя, адпачываючыя пасля працоўнага дня віленцы, госці. Замежнікаў тут хоць адбаўляй. І ўсё з краін Эўразвязу.. Неяк неўпрыкмет заўважаеш такую акалічнасць, што невялікія і большыя кампаніі –гэта сустрэчы па інтарэсах. Віленцы за кубачкам кавы, піва абмяркоўваюць дзелавыя пытанні. І старажытны філосаф меў рацыю, калі згадаў, што на свежым паветры лепшы ня толькі апетыт.Вільня дае ўсе падставы верыць мудраму філосафу. Аднак, калі ты доўга засядзішся ў адзіноце , то палепшыць твой настрой адразу ж прапануюць мясцовыя жрыцы кахання. З ўсмешкай моўчкі згадваеш сабе, што сусветныя парокі надзённы для любой эпохі і часу дня быў бы попыт, прапанова тут жа.Разумею, што засядзеўся і нетаропка крочу да гатэлю. Па дарозе яшчэ некалькі разоў мяне спрабуюць спакусіць выклікаючы апранутыя віленкі.



У мяне іншыя мэты побыту у Вільні, і я хачу раніцай заўтра выкарыстаць магчымасць на ўсе сто. Таму спакойна засыпаю ў гатэлі, і ў мой пакой праз адкрытае вакно ўсю ноч недалятаюць гукі чароўнага начнога горада. Раніцай нядзеля . Мяне абуджае звон са святых званіц касцёлаў, цэркваў, храмаў іншых канфесій, чым асбліва ганарыцца Вільня. Імша пад гукі аргана. Ці не чаруючаы момант для душу чалавека-верніка. Як тут аксамітна, асалодна. Так бы назаўжды. Не, так, ўжо ніколі не будзе. Мы, ліцьвіны ,страцілі Вільню назаўсёды. Тыя, хто зараз рэяводзіць на Віленшчыне неўпрыкмет забыліся пра ту гісторыю, якая разам нам стварала хвалу. Яны робяць усё, каб Вільня была толькі іхняя летувісская. Можа таму і насамрэч маюць рацыю захады мясцовых палякаў і габрэяў, што Вільня-гэта горад створаны намаганнямі многіх народаў, пласты культуры якіх яскрава адлюстрована ў пабудовах Старой Вільні. Яны адстойваюць сваё. Сучаснай правячай герархіі " Бела Рутэне" такія захады нідачога. Ім спрыяльней з братам "Хуга" і " Кастра". Адчуваеш, што мы на абочыне ўласнай гісторыі.

І калі пасля працяглай вандроўкі вулкамі, дзе шмат яшчэ што паўстае напамінам пра нашых славутых продкаў, і душа , насычаная водарам такой мілай сэрцу хрысціянскай Вільні, а ўсё яшчэ перамешана з пачуццём заканчэння ўсіх спраў, іду на вакзал, і ад"язджаю дадому. Дзякую Вільня, бывай Вільня і да сустрэчы.

# Павел Севярынец «Паленне» Працяг...



Я выйшаў у тлум пэрону, ва ўсеагульную таўхатню, і ўзважыў на руцэ час.Вакзальны шум. Пад гулкім купалам залі шумела шматлюднае варушэньне. Шырокае шарканьне, гоман, тоненькі цік абцасіку —увушшу ўсё стушоўвалася ў заварожаны хор. Кожны горад гучыць па-свойму, вось у чым сэнс. У Горадні тон афіцыйны й сухі, некалькі цырымонны; у Магілеве — базарны ды едкі, з лушчаньнем семак; і велічны, з таемным шкляным пазвоньваньнем, у Віцебску. Я заўсёды, калі прыяжджаю, дазваляю сабе такую маленечкую хвілінку. Прыслухацца.Тут стаяў усё той жа вусьцішны шолах з характэрным прышэптваньнем, невыразны й клапатлівы, як тутэйшы выгавар, памяшаньне расейскай з трасянкай. І тое ж няпэўнае, прасторнае рэха, тыпова менскае, можа быць, крыху больш пасьпешлівае, чым паўтары гады таму.Было людна і брудна. Масква адпраўляецца, паўтаралі ў залі гулка й мэтадычна, Масква адпраўляецца. У Маскву, у Маскву, народ натоўпамі перабіраўся да дальніх вагонаў.Што ж, а мы ня будзем сьпяшацца. Сёньня, пакуль ёсьць магчымасьць, трэба рабіць усё нетаропка, важка, з усьведамленьнем значнасьці. З расстаноўкаю і пачуцьцём. Пачынаецца знакаміты дзень, мой дзень, я сэрцам чую, і гэта шмат што значыць.Я крочыў праз рух чамаданаў, міжволі выглядаючы каго-небудзь са знаёмых, і нечакана, у шкляных дзьвярох на выхадзе, ледзь не сутыкнуўся з самім сабой.На Прывакзальнай плошчы было сьцюдзёна. Пяшчотныя дрыжыкі млелі ў яшчэ цёплым целе: я нема зяхнуў і захутаўся. Ну вось, горад Менск перада мной. Нейкі па-ранішняму ўбогі, няветлівы й пешаходны. Так цёмна тут апраналіся, я ўжо адвык.

Настрой трывожны. Нешта скрозь нездаровае было ў абшарпаных сьценах і беспарадчным руху людзей. Збройны патруль насьцярожана паглядваў у твары прыезджых. Нейкі дзядзька натужна цягнуў на санках багаж, палозьзе са скрыгатам ўскрыквала, сьцірала асфальт да самых мурашак па скуры. Віск жалезьзя браў за жывое.Я глядзеў са страхавітым уражаньнем. Быццам бачыў упершыню гіганцкія вежы сталінскай пабудовы, з чыгунным гербам на адной і гадзіньнікам, што даўно спыніўся, на іншай. Цераз дарогу зеўраў разгромлены шапік — каробка елачных цацак, грохнутая аб падлогу. Змрочныя рэчы. Трэба было б падабраць нешта такое на памяць: можа, вось той замерлы на вежы час, ці то сутуласьць людзкую, ці пранозна вісклівую ноту, пакінутую санкамі на асфальце.-..Зьбярыся. Я ўсхрапнуў усю сьлізь з насаглоткі й рашуча схаркнуў. Табе трэба перажыць усё, што будзе сёньня.

Зараз да Белага. Зрэшты, сапраўднае яго прозьвішча Белых, але ў нас яго называлі Белым. Некаторыя нават дасьціпнічалі — Беленькі, бо сам ён быў да апошняе валасінкі чорненькі, з такімі трагічнымі, ці не жыдоўскімі, ценямі ў бледным, абвостраным твары. Заўжды нейкі хваравіты, ён увесь час пакашліваў ці, зьняўшы акуляры, балесна прымружваў вочы, і за беларушчыну змагаўся з такім выразам, зь якім скаўтваюць празь сілу. Было ў гэтым штосьці заразнае, і я іншым разам пачынаў гэтак жа, балеючы за беларускае, хрыпавата пакашліваць.Ён ледзь пазнаў мяне ўчора па тэлефоне:— У-у, сябра мой літоўскі, — гукнуў, мне сьпярша так падалося, расчаравана, — прыяжджай, канечне. Тут ого-го што творыцца.

Я перайшоў плошчу. На скрыжаваньні крыху памарудзіў, якім шляхам пайсьці далей — і раптам, разьдзімаючы ноздры, застыў: пахне хлебам. Гарачым хлебам, ммм, і як пахне! Проста пасярод вуліцы —бывае ж такое — быццам з самай духоўкі пякарні. Хочацца дыхаць яшчэ й яшчэ, і выдыхаеш шчасьлівым стогнам. Канечне, вось гэтая крама, на рагу, мы студэнтамі бегалі туды паміж параў па смажні. Уяві, ты прыехаў сюды праз паўтары гады, у горад халодны й галодны, ты проста з вакзалу, ня еў, і самае лепшае, што толькі можна прыдумаць — гэта родны пах гарачага хлеба.

Я з задавальненьнем зайшоў у надыханае, па-чалавечы жылое цяпло. Гастраном запушчаны, савецкі, знаёмы зь дзяцінства: тут з хлебным духам мяшаўся настойлівы пах бакалеі, перны й сухі, прэсная сырасьць малочнага, і, само сабой, несла з рыбнага. І так дружна, бадзёра кішэў і соваўся ранішні люд, так будзённа пераклікаліся прадаўшчыцы, дзяўчаты ў белым, што мяне размарыла шчырая ўсьмешка, і стала ясна, да сьлёзаў ясна: мы абавязкова вытрымаем, няма ніякіх сумневаў, мы будзем жыць, і з нашай краінай усё будзе добра.

Куплю перакусіць. Ды яшчэ якога гасьцінцу для Белага. У яго, здаецца, малы. Прыткнуўся ў чаргу, дастаў грошы. Калі я зьяжджаў, гэтая сума яшчэ нешта значыла. Зараз адно каб хапіла. Старыя добрыя грошы, даражэнькія мае, як жа знаёма яны шамацяць у руках — шурпатыя, цёплыя, шчэ жывыя. Кажуць, хутка будуць мяняць. Шкада.Вось дзьвюхсотачка — гэткія, пэўна, ужо не прымаюць. Шэравата-блакітная, з Прывакзальнай плошчай і маленькімі чалавечкамі. Такая ж бруднаватая, непрыбраная, як і пляц.Пяцёрка, Траецкае, пацёрты румянец. Вось табе твая маладосьць —дахі, выцьвілая зеляніна, ажурнае сонечнае сьятло, усё ў мглістым ружовым тумане. Дзесьці там Гістарычны клюб. Пяць тысячаў пацёртых успамінаў.

Нарэшце, самая галоўная паперчына, самая храбусткая, Опэрны. Сто. Халаднаваты Опэрны, змрочны, як храм друідаў, з вадзянымі знакамі ў глыбіні — глянь, абарочваецца рытуальнымі танцамі. Сёньня ўвечары трэба быць там. Народу сто тысячаў. Будзе відовішча не для нэрвовых.Паўгорада ў кішэні, толькі падумаць. Маё паўцарства. Мінск, Менск — ці перайменавалі? Мінск, Менск, як прыемна мнецца ў руках, перамінаецца неразьменная памяць.

Я зноў быў на гэтых вуліцах, у сваіх унівэрсытэцкіх кварталах. Усё захавалася. Я чакаў на забытых сьветлафорах і са смутным захапленьнем аглядаў будынкі, велічныя й старыя: здавалася, яны аблупіліся й патрэскаліся менавіта за гэты час.На плошчы Незалежнасьці прадавалі вугаль. Было мнагалюдна, але нешматслоўна. Засяроджаныя дзядзькі калгаснага выгляду ў шызаватых ватоўках, з пылам, пыхам і бляскам, з шарханьнем на ўсю плошчу разграбаліся шуфлямі. Вугаль бралі вёдрамі, як бульбу, торфабрыкет па штуках, выбіраючы цалейшыя. Стараючыся не запэцкацца, я прабраўся паўз чорныя адвалы, між гружаных калясак, скрыняў і мяшкоў.Праспэкт ішоў пешшу. Праезныя машыны зрэдку падкрэсьлівалі нясьпешлівы пешы рух. Я крочыў павольна, як у халоднай карціннай галерэі, кшталтуючы рухі, абмінаючы асьцярожна сустрэчных. Я хутаўся ў куртку і, быццам кішэнную дробязь, цацаў кожную падабраную знаходку. Мілае дзяўчо, што ўтнулася носам у пухнаты каўнер, усё роўна каленкі голыя. Цяжкія дзьверы кнігарні, куды я заўсёды заходзіў набыць што-ніштo патаньней; яны зачыняліся з буханьнем і ледзяным дрыжэньнем. Загнуты дарожны знак, кавалак бляхі, што па-сіроцку матляўся, трымцеў на вятры па-над праспэктам, і якраз за ім віднеўся той самы дах. Бясцэнныя мясьціны. Ты ўспомні. Я дыхаў, як на шкло — усё на міг ажывала зь лёгкім воблачкам пары... Гэта здавалася мне настолькі пранізьлівым і значным, што я часьцяком затрымліваўся й падоўгу глядзеўся ў вітрыны.

**Павел Севярынец каля склада, у якім працуе.**



# Бывай Лондан. Бывай Надзея!!!



Наваат палову ад запланаваных 25-ці медалёў нездабылі на Лонданскай летняй Алімпіядзе беларускія атлеты. Даўно вядома, што планаванне і прагнозы ў спорце рэч няўдзячная, аднак нашы чыноўнікі пагрэбалі гэтымі запаветамі, абвесціўшы на ўвесь свет пра свае алімпійскія мары.

Калі разглядаць наш ўдзел ў гульнях чатырохгоддзя, то адразу заўважыш, што нашы спарцсмены іх трэнеры былі перагружаны задачамі, што адмоўна адбілася на маральна-валявых якасцях ўсёй дэлегацыі. Выступленне з аглядкай на Менск негатыўна раздражняла ўсіх разам. Гэта , што тычыцца сільволі і духа. Насамрэч многія спарцсмены нашай зборнай былі негатовы выступаць на тым ўзроўні, які прапанавалі,і паказалі атлеты іншых краін. Тут просіцца выснова, што пік спартыўнай формы ў некаторых беларускіх алімпійцаў прайшоў. Вынік,-памылка трэнерскага штабу. Неабышлося і без скандалу з ўдзелам беларусаў. Антыдопінгавы камітэт наноў абвінавачвае беларусаў ў выкарыстанні забароненых медпрэпаратаў. Зараз беларускі бок мае намер даказаць адваротнае. І, што прыкра, як і раней крыўды на тое, што беларусаў засудзілі. Нас проста нелюбяць і непаважаюць ў Эўропе і астатнім свеце.

І ўсё можна было б зразумець, каб не некаторыя выказванні трэнераў і саміх спартоўцаў. Ў Беларусі дрэнна працуюць з падрыхтоўкай рэзерва. Няма канкрэтнай дзяржаўнай праграмы фінансавання дзіцячага і падлеткавага спорту. Няма кваліфікаваных дзіцячых трэнераў. Няма пабудаваных з сучаснай інфраструктурай спартыўных комплексаў. Палацы спорту – гэта шырма, а не панацэя. І самае галоўнае, ўся фізкультурна-спартыўная галіна падпарадкавана прыхацям і амбіцыям аднаго чалавека. Ствараецца ўражданне, што ўсё на зямлі Бацькаўшчыны робіцца дзеля аднаго чалавека.



**Свабоднае інфармацыйнае выданне**
**Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.**
**Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты**
**Наклад 299 паасобнікаў**
**Адказны за выпуск: Георг Нёман**